# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 48 (979) ГОД XIX 1 СНЕЖНЯ 1974 г. ЦАНА 60 гр.

## ВАЎКАВЫСКІЯ АРТЫСТЫ

Урачыста і радасна адбывалася на Беласточчыне святкаванне 57-ай гадавіны Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. На заводах, на прадпрыемствах і ў розных установах прайшлі сходы і сустрэчы.

Асабліва ўрачыста адзначалі свята жыхары Бельска Падляшскага, Беластока, Гайнаўкі, Элка. Урачыстым сходам у гэтых мясцовасцях прыдалі блеск выступленні калектыву мастацкай самадзейнасці Ваўкавыскага раёна Гродзенскай вобласці. Калектыў прабываў у нас з 4 да 9 лістапада па запрашэнню ваяводскіх партыйных і культурных улад.

Па сутнасці ваўкавыскі калектыў складаецца як бы з трох калектываў: Народнага калектыву Ваўкавыскага цэментна-шыфернага аб'яднання „Перамога", танцавальнага калектыву Ваўкавыскага раённага Дома культуры і аркестра Ваўкавыскай дзіцячай музычнай школы. Усё гэта ствара адзін, можна сказаць, ансамбль песні і танца. Аднак, вядучае месца, бясспрэчна, належыцца народнаму хору „цэментнікаў".

Праграма, якую паказалі нам госці з Ваўкавышчыны, і багатая і разнастайная. Прыгожа гучэлі сучасныя і народныя песні беларускія і рускія, танцы ў выкананні чароўных дзяўчат і юнакоў, мелодыі аркестра.

За ўсё гэта, усюды дзе пабывалі, нашы госці атрымлівалі бурныя апладысменты не толькі ў сэнсе паўтарэння песні ці танца, але ў сэнсе часцейшых наведванняў нашай зямлі і найлепшых пажаданняў з нагоды вялікага свята.

Народны хор Ваўкавыскага цэментна-шыфернага аб'яднання „Перамога" вядомы ва ўсёй Беларусі, а нават за яе межамі. Мастацкім кіраўніком хору з'яўляецца Л. Кулакоўская, балетмайстрам А. Белабокі, а кіраўніком аркестра Л. Ліберман. Праграму вялі К. Гладышава і І. Гурскі.

Дарагіх беларускіх артыстаў усюды сардэчна прымалі: у Беластоку ў час канцэрту на ўрачыстым сходзе, прысвечаным гадавіне Вялікага Кастрычніка, у Бельску Падляшскім, у Элку і Гайнаўцы. У час канцэртаў у Гайнаўцы, як доказ прызнання, быў ім уручаны падарунак беластоцкага ваяводы, сучасны стэрэафанічны магнетафон.

*

Гледзячы мастацкія аматарскія калектывы, якія прыязджаюць да нас з Гродзеншчыны, паяўляецца пытанне: як гэта ў іх ёсць, што часта выглядаюць яны на прафесіяналаў. Бо, скажам, саліст Ваўкавыскага калектыву У. Кавальчук ці Т. Ткачук — гэта галасы і спосаб выканання песень не аматарскія. Падобна і ў танцавальнай групе.

Таямніца заключаецца ў тым, што ў нашых сяброў за мяжой добра вырашана справа падрыхтоўкі спецыялістаў для аматарскага мастацкага руху. У музычных школах рыхтуюць там не толькі музыкаў для філар-

(Працяг на стар. 4)






*Сяргей Грыгарук са сваёй малодшай дачкой Аляй.*




**„Шафёр, памажы дзіцяці"**

Калі Сяргей Грыгарук паяўляецца ў ваколіцах школы на вуліцах Белавежы, з розных бакоў чуваць дзіцячыя галасы:

— Дзень добры!

— Дзень добры!

— Дзень добры!

Не паспявае адказваць, а на душы прыемна: гэта ж яго пасажыры, добрыя знаёмыя, дзетвара.

Колькі ж гэта разоў ён іх падвозіў, гэтых пушчанскіх малышоў, аб'язджаючы штодзень свой участак лесу або кіруючыся ў Белавежу! Не мог прамінуць на лясной сцяжынцы ці палявой дарожцы малое з сумкай за плячыма, якое халодным асеннім ранкам крочыла ў школу.

—Ну, сядай, калега! — дзверкі шафёркі ветліва расчыняліся перад малым пасажырам.

Ускараскаўшыся на мяккае сядзенне, дзіця ўдзячным вокам кідала ў бок Сяргея, а той думкамі быў ужо там, дзе, ведаў, стаялі дзеці з іншай вёскі.

— Колькі разоў іх падвозіў? А хто яго палічыць, амаль штодзень. Дзеці ведаюць ужо маю машыну, ведаюць, што іх вазьму, вось і чакаюць, — гаворыць Сяргей Грыгарук. — Даведаліся, што збіраю купонікі, дык стараюцца іх мець, **у знак удзячнасці.** Але я ж мала вазіў іх так, без усялякіх купонаў! Вазіў жа не дзеля ўзнагароды, а таму, што хочацца аблегчыць малому дарогу ў школу, дапамагчы, як свайму ўласнаму. Зрэшты, усе ж дзеці нашы!

— Вось вы сёлета, — кажу, — прыслалі ў штаб акцыі больш дзвюх тысяч купонаў. Як вам удалося столькі сабраць?

— Гэта зусім не многа, — усміхаецца Сяргей. — Сёлета сабраў менш, чым у мінулыя гады. У гэтым годзе я ўпершыню ездзіў па пушчанскіх вёсках, прычым, толькі восем месяцаў. Тут менш дзяцей, ды і падвоз ужо больш арганізаваны. А вось у мінулым годзе я ездзіў па Сэйненскім павеце. Там у мяне была даўжэйшая траса і значна больш дзяцей чакала на дарозе. Тады я сабраў чатыры тысячы купонаў і заняў другое месца. Наогул, дзеці прывыклі, што іх заўсёды бяру, і чакалі кожную раніцу на тым самым месцы. Расказваў мне сябар, — працягвае Сяргей Грыгарук, — які таксама працуе шафёрам і ахвотна падвозіць дзяцей, што яму неяк давялося ехаць машынай іншага колеру па сваёй штодзённай дарозе, і тыя ж дзеці, не пазнаючы яго здалёк, нават не паднялі рук. Значыць, маюць яны ўжо „сваіх" шафёраў, сваіх сяброў.

(Працяг на стар. 4)

### ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве"

Беларуская кухня ў Беластоку ● Семяноўскае мора ● У Хантымансійску ● Са Скупава ў Аполе ● Азерскія ● Весткі з Васількова, Гайнаўкі, Нараўкі, Азяркa, Тапаркоў, Кожына, Грабаўца, Кляшчэляў, Ставішчаў, Белавежы і інш. ● Песня з рэпертуару „Чырвоных гітар": „Była to głupia miłość".

## БОЛЬШ УВАГІ ДА НАРОДНАЙ ПЕСНІ

**ДА КОНКУРСУ „БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-75"**

У адным з раздзелаў статута БГКТ перад усімі членамі нашай арганізацыі пастаўлена заданне: **„старанна ахоўваць беларускі фальклор".** І гэта не выпадкова. Фальклор з'яўляецца адным з найкаштоўнейшых скарбаў беларускай нацыянальнай культуры, ён — адна з асноўных інспіруючых сілаў прафесіянальнага беларускага мастацтва ў мінулым і ў сучаснасці. А як вядома, пад назвай „фальклор" разумеецца сукупнасць самых разнастайных форм народнай мастацкай творчасці, г.зн. жывапіс, скульптура, музыка, танец, вусная творчасць і г.д. З гэтага мноства постацей народнага мастацтва затрымаем нашу ўвагу на беларускай песеннай народнай творчасці і глянем, як у адносінах да яе БГКТ выконвае свой статутовы абавязак.

Ахоўваць беларускую песенную народную творчасць абазначае збіраць яе і распаўсюджваць. На жаль, у гэтай галіне наша таварыства, гэта значыць, усе мы, павінны чырванець ад сораму за сваю бяздзейнасць і слабасць. На працягу 18 год існавання БГКТ і яго выдавецкай дзейнасці („Ніва", беларускія календары, розныя зборнікі) мы здолелі апублікаваць усяго толькі 480 песень, у тым ліку 170 з нотамі. Такім чынам, у сярэднім у год траплялa ў друк каля 28 твораў і сярод іх адно 10 з мелодыямі. Пры такім „тэмпе" працы, бэгэкатоўскі друк змог бы апублікаваць, напрыклад, зборы беларускіх песень М. Федароўскага (4171 тэкст і 1505 мелодый) толькі на працягу 150 гадоў сваее дзейнасці!.. Каментарый тут бадай непатрэбны, а вывад напрошваецца адзін — **трэба адвесці больш увагі і месца народнай песні ва ўсіх выдавецтвах БГКТ.** Пры гэтым неабходна клапаціцца пра тое, каб у друк траплялі творы, не скажоныя адвольнымі пераробкамі збіральнікаў, з перадачай дыялектных асаблівасцей мовы, з дадзенымі аб выканаўцы твора, месцы і часе запісу і надта істотная справа — з нотамі. Калі не споўнена хоць бы адно з гэтых патрабаванняў, такі за-

(Працяг на стар. 4)

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 191


* ❊ *

*Вось гэты верш*
*пішу я аб нічым*
*без тэмы рыфмы*
*і без зместу*
*не раз я чуў*
*як ты ў цішы*
*без слоў*
*і без мелодыі спявала*
*і слухаў я і сэрца напаўняў той*
*песняй*
*што песняй не была ніколі*
*дык значыць*
*можна цешыцца з нічога*
*калі шчаслівы мы*
*калі ў сэрцы ружа*
*дык можам цешыцца як дзеці*
*і у бяссэнсе бачыць сэнс*
*трам там там там*
*трам там там там*

**Алесь Барскі**



Дэбют

## ПЯТРО КІРЫЗЮК

Пятро Кірызюк нарадзіўся ў вёсцы Крываціцы ў 1955 годзе. Вучыўся ў пачатковай школе ў Моры. Цяпер ён вучыцца ў беларускім ліцэі ў Гайнаўцы. Належыць да гуртка маладых аўтараў і карэспандэнтаў пры гайнаўскім аддзеле БГКТ. Першыя творы пачаў пісаць на мове свайго дзяцінства.



## ЗУБ ЧАСУ

Зуб часу
скрывіў
твар...
— у бель
голоў
прыбраў
пуд похороны.
Выломаў
зубы
— очы
осушыў
і запустыў
дымом.
Тіело
посыпаў
попэлом.

* ❊ *

Зуб
часу
скрыўдыў
чоловека.
Зоставіў
шкелет
його існованія;
— засеяў страх
і веру
в...

**Пятро Кірызюк**



### ХАТА І ДОМ

Пражыла гадоў багата
З смаляных бярвенняў хата,
З саламянаю страхой.
Адбылося шмат здарэнняў,
Не адно ўжо пакаленне
Тут закончыла век свой.
Не кранулі хату войны,
Адышоў час неспакойны,
Мір ступіў зноў на парог.
У старыннай вёскі сцены
Завіталі перамены
З новых гарадскіх дарог.
Ля хаціны нечакана
Павярховы рос, цагляны,
Гарадскі прыгожы дом.
Хата скромная, вядома,
Ля паверхавага дома
Учарашнім жыла днём.
І прахожым, як іронія,
Здаўся на гіганта фоне
Хаты той мізэрны ўзор.
А чуллівыя сяляне
Хаты хуткае ўміранне
Дому ставяць у дакор.

**Віктар Швед**

### РЫЦАР

Самотны рыцар у даль адпраўляецца,
У бязмежны свет на кані белым,
Сталь серабрыцца, на грудзях палае,
У руках шчыт гарыць сонцам спелым.

Рыцар шчасця сабе шукае ў далях,
На зямлі багатай і... нязнанай.
Рыцар славу шукае ў бою хвалях,
У хвалях гарачага змагання.



У шумным свеце ёсць шчасце, ёсць
і слава,
Ёсць вораг і сябар, сон ля кургана,
Ёсць граль святы і ў салонах забава,
Ёсць і смерць, што прыйдзе нечакана.

Яшчэ святы Юрый шле благаслаўленне,
Яшчэ гарыць зброя, шчыт мільгае,
Аж гіне рыцар, быццам ліст асенні.
Ці знойдзе шчасце, славу? Ох, не знаем.

**Юрка Баена**

З візітам — гродзенцы

## МАЁ ДЗЯЦІНСТВА

*Снягі замяталі дамы*
*аж да стрэх.*
*Чорна-белыя ёлкі*
*стагналі начамі.*
*Ды раптоўна аднекуль*
*даносіўся стрэл,*
*і сабакі ў вёсцы*
*брахаць пачыналі.*
*Падыходзіла мама*
*тады да вакна*
*(Кожны гук быў*
*для сэрца*
*балючай трывогай)*
*і стаяла, стаяла*
*адна да відна,*
*і прасіла збавення*
*ад немцаў у бога.*
*І не спалася нам*
*каля печкі часамі:*
*— Хто гэта страляе?*
*Толькі мама ў адказ*
*нам махала рукой*
*ці казала праз слёзы:*
*— Іх бог пакарае.*
*Асвятлялі пажары*
*ў хаце куткі.*
*Іншы раз нават кулі*
*на печ заляталі*
*ці даносіўся крык:*
*— Уцякайце, браткі! !*
*Гэта немцы кагосьці*
*ўжо каталі.*
*Не салодкаю казкай*
*дзяцінства было.*
*Ваявалі з фашыстамі,*
*з холадам, голадам.*
*І цяпер пад страхой*
*яшчэ тое вясло,*
*што на моцнай*
*лабаціне*
*немца расколата.*

**У. Васько**






Плакала
згубіўшы дарогу
над цяжкай доляй
Чалавека

думала
што дурнейшым
заўсёды лягчэй

але гэта
не была абсалютная
праўда
абсалютнай няма.

———

Пасцель белая
сцены белыя
белыя дзверы

Чалавек

піць піць піць
просяць Губы.
чаму якраз Я?

———

Не магу не магу
больш ніколі
чакай чакай
яшчэ раз

лягчэй

не я не хачу
ўміраць.

———

Збудую новы Дзень
без ночы
з бурштыновымі вокнамі
глянь такі прыгожы
Месяц і Зоркі...

———

Збудую новае Жыццё
без плачу клопатаў
бяды і голаду!

———

Закінула мяшок на плечы
та-а-а-кі цяжкі
сіл мала
— яшчэ раз закінуць...

**Ірэна Баравік**

## Непахісны закон

* ❊ *

*Спакойным сном дзіцячым*
*калыскай ўкалысаны*
*плывеш ты у бяскрэсны*
*у свет жыцця й людзей*
*захлынешся ў будучым*
*каханнем і нянавісцю*
*без гора стрэнеш шчасце*
*і гора без надзей*

* ❊ *

*Гады ідуць няспынна*
*гады йдуць без агляды*
*вясёлы смех юнацтва*
*іроніяй прагучыць*
*і снегам заірдзяцца*
*завеяныя скроні*
*і час маршчын баразнамі*
*твар густа збаразніць*

* ❊ *

*Замоўкнеш як спявак ты*
*замоўкнеш абяссілены*
*праравецца існавання*
*працяжны твой напеў*
*і забярэш з сабою*
*усё чым жыў — у цемрадзь*
*усё тое што зрабіў ты*
*усё то — што не паспеў.*

**Кастусь Бандарук**




Спачатку пастараўся знайсці работу.

Быў гэта дурны занятак продажам білетаў на канцэрты паўгарадскога спявацка-танцорскага калектыву жыццёвых банкрутаў. Цэлым гешэфтам кіраваў непапраўны плацёжнік аліментаў, які — у безграшоўе — яўна хадзіў нанач да жонкі лірычнага барытона і п'яніцы. Барытону было ўсё роўна, а нават лепей — тады піў да раніцы ў забягалаўцы „Сонейка".

Кумпястыя спявачкі і танцоркі грызліся за невядома што, аж дзіўна слухаць і глядзець было; каб сабака пачуў іх гутаркі, дык засмяяўся б, сеўшы на хвасце. Яны мелі надзею выйсці замуж! І сварыліся за тое, у якой будзе багацейшае вяселле. Вясковыя, апранутыя паводле прыварашаўскай моды ды густу. Сапраўды выходзілі замуж, да таго ж артысткамі, якія па-арыстакратычнаму прысвяцілі свой талент мужу і дзецям.

На іх месцы з'яўляліся новыя.

Урэшце — не вытрываў таго балагану ды згідзіўся: знайшоў работу грузчыка скрыняў у гандлёвай фірме. Брыгада, у якой працаваў, развозіла тавары па мястэчках Беласточчыны... Навучыўся піць спірт і запіваць яго малаком, а таксама шчыпаць за кульшы тоўстых буфетчыц. У Беластоку наняў пакой, зарабляў.

Канчаткова пакінуў загноеную гаспадарку з бацькамі на ёй.

Добра.

Аднойчы, цэлым ган'ём у галавастай „Шкодзе": ляснуліся аб вярбу — за Мілейчыцамі. Выхаплены з шафёркі дыяблам, вырыў яму ў полі — паблізу Навасёлкаў. Выратаваўшы розум з балота, разгледзеўся і прысягнуў быць пісарам (ад імпэту ногі параскінула і нагавіцы падраліся на швах). Жах было глядзець на сяброў, з пакрыўленымі мордамі і пакілбашанымі рукамі, у якіх, здавалася, яшчэ трымаюць шклянкі...

Пісарам стаў за палову грошай, якія меў у брыгадзе. У дырэкцыі якраз шукалі ахвярнага казла, на дурноту якога можна б узвальваць недахопы, і маглі б даць больш — але ён не дамагаўся, яны не прапанавалі... Прывязалі яго да пасады намесніка кіраўніка (з тытулам: пане кіраўнік). Дырэкцыйныя бадзягі падсунулі яму напарфумаваную беларучку, з якой

(Працяг на стар. 5)

 

## Ваўкавыскія артысты

(Працяг са стар. 1)

моніі, але і на аматарскія сцэны. Многія з іх, як, напрыклад, дырыжор ваўкавыскага хору, з'яўляюцца кіраўнікамі культурных пляцовак. Зрэшты, у гэтым калектыве ёсць намнога больш такіх прыкладаў. У савецкіх сяброў спецыяльна для аматарскага руху (улічваючы яго спецыфіку) рыхтуюць музыкантаў, харэографаў і спевакоў. І ў гэтым заключаецца таямніца яшчэ аднаго — прыгожага, пажаданага сімбіёза простых аматараў спявання і танца і спецыялістаў, якія з'яўляюцца асновай высокай мастацкасці.

Гэтаму варта павучыцца нашым кіраўнікам мастацкага аматарскага руху.

**А. Карпюк**
фота аўтара



## Крытыка не памагае

У ліпені г.г. „Ніва" пісала аб клопатах чаромхаўскіх чыгуначнікаў. У 43(974) нумары быў адказ гайнаўскага ПЗГС.

Што змянілася ў Чаромсе ад часу надрукавання крытычнай інфармацыі? Нічога. У крамах як была пустэча, так і засталася. Некалькі гадоў працаваў я ў раёне. Пабываў не ў адной вёсцы Беласточчыны. І смела магу сказаць, што ў нехаторых вёсках (напрыклад, Бандары ў Беластоцкім павеце) усяго ёсць удосталь. Тут можна купіць дзіцячую вопратку і абутак. Тут ёсць жаночая і мужчынская бялізна (магчыма не заўсёды бывае, аднак часцей, як у Чаромсе). А гэта ж такая самая вёска, як іншыя. Мне здаецца, што гэта залежыць толькі ад людзей. Адзін працуе па-гаспадарску, а другі — абы дзень да вечара. І таму так маем. Вось другая справа. Гайнаўскія гандлёўцы пішуць, што кляшчэлеўскі ГС атрымлівае найбольш мяса і мясных вырабаў з каўбаснай гайнаўскага ПЗГС (30% усёй прадукцыі). На забеспячэнне жыхароў Чаромхі кляшчэлеўскі ГС прызначае больш 50 працэнтаў агульнай масы мяса і мясных вырабаў. Тады дзе гэта ўсё дзенецца? А мо мы таго не бачым, замала заглядаем у краму? Магчыма і так. Вось пакажу дзіўны прыклад з мясной секцыі чаромхаўскага

(Працяг на стар. 7)

## Больш увагі да народнай песні

(Працяг са стар. 1)

піс траціць сваю навуковую і практычную вартасць.

А аб практычнай каштоўнасці збірання і публікацыі народных песень у дзейнасці БГКТ мы таксама не павінны забываць. Бо, збіраючы і публікуючы беларускія народныя песні Беласточчыны, па-першае, выхоўваем у асяроддзі беларускай меншасці высакароднае пачуццё пашаны да сваіх культурных традыцый, абуджаем у ім жаданне і патрэбу працягваць і развіваць гэтую самую каштоўную форму мастацкай творчасці; па-другое, дастаўляем самадзейным калектывам і індывідуальным спевакам багаты рэпертуар, актуальнасць і мастацкая вартасць якога ніколі не праміне.

Дарэчы не будзе лішнім прыпомніць, што беларускі працоўны народ у сваіх песнях спрадвечна выказваў асноўныя прынцыпы этыкі. І калі зірнуць хоць бы павярхоўна на іх змест з пункту гледжання прадстаўленай сукупнасці нормаў паводзін чалавека ў грамадстве, дык адразу кідаецца ў вочы факт, што ў аснове кожнай народнай песні ляжыць маральная ацэнка і норма, якая павінна рэгуляваць паводзіны кожнага чалавека, а таксама адносіны паміж паасобнымі людзьмі і грамадскімі групамі паводле універсальных прынцыпаў гуманітарызму і любві да чалавека. Гэтыя народныя этычныя нормы складваліся на працягу стагоддзяў на незлічоных прыкладах са штодзённага жыцця і тое ж жыццё праверыла іх правільнасць на стольніх жа прыкладах.

Ужо нават песенныя памяншальна-ласкальныя формы: „матулька", „айчулька", „сыночак", „донечка", „сястронка", „брацік", „дзеверык", „бабулька", „куманёчак", „кумачка", „суседачка", „людочкі" з'яўляюцца зусім не знешняй формай далікатнасцей, яны прасякнуты глыбокім пачуццём ушанавання чалавека і выразам культуры адносін. Колькі б часу не патраціць, усё ж немагчыма знайсці аніводнай песні, дзе б пахвалялася зладзейства, прысваенне чужой маёмасці, прага ўзбагаціцца чужым коштам, рознае махлярства, а калі і ўпамінаюцца гэтыя адмоўныя грамадскія з'явы, дык толькі дзеля іх асуджэння, крытыкі і асмяяння. Чалавек працавіты, дбайны, сумленны, сціплы і шчыры — вось народны ідэал. Услаўленне вернасці, чуласці, маральнай чысціні, памяркоўнасці, любві да сям'і і дбайнасці пра ўсіх яе членаў і ў той жа час бескампраміснае асуджэнне здрады, пралюбадзейства, сварлівасці, тыраніі, валакіцтва, п'янства і разгулу — гэта вядучыя матывы народных песенных твораў. У іх героі любяць свой родны кут, ніколі не спяшаюцца ў „чужую старонку", а апынуўшыся ў ёй, на крылах ляцяць пад родную страху.

Не меншую, чым маральную, маюць народныя песні і мастацкую каштоўнасць.

З году ў год у песенных конкурсах БГКТ беларускія народныя песні Беласточчыны займаюць больш значнае месца. Вось хоць бы на цэнтральным аглядзе „Беларуская песня-72" сярод 36 выкананых песень было каля 15 фальклорных твораў, а ў сёлетнім „Песня-74" на 64 праспяваныя песні 23 былі фальклорныя. Больш-менш падобны быў удзел мясцовых народных песень і на павятовых аглядах. Не скажам, што гэта надта мала, але такі стан нас не можа задаволіць. Ужо для конкурсу „Песня-74" зусім правільна былі ўстаноўлены дзве раўназначныя катэгорыі ацэнкі: для сучаснай песні і для фальклорнай песні. Гэтае ж правіла застаецца ў моцы і ў будучым конкурсе „Беларуская песня-75". Таму ўсе мы і перш за ўсё самі ўдзельнікі конкурсу павінны паклапаціцца, каб і колькасць і мастацкая вартасць выкананых на ім беларускіх народных песень з розных куткоў Беласточчыны ўзрасла і ні ў чым не ўступала сучаснай беларускай песні.

**Мікалай Гайдук**

Беларуская літаратура — Аляксандр Баршчэўскі

## Нашаніўская пара

**МАКСІМ БАГДАНОВІЧ — ЧАСТКА XXVIII**

**Феміністычная тэматыка і лірыка кахання.** З вершаў аб уласным каханні сёння разгледзім тыя вершы паэта, у якіх на першым плане знаходзіцца яна — дзяўчына, аб'ект пачуццяў паэта, а яго ўласнае я як бы ўступае месца яе постаці.

Адным з найбольш эмацыянальных вершаў з аналізаванага цыкла трэба лічыць твор „Больш за ўсё на свеце жадаю я". Верш гэты адносіцца да лірыкі ўяўленняў. Гэта значыць, што дамінуе ў ім не тое, што ў жыцці паэта з'яўляецца рэальнасцю, рэчаіснасцю, а тое, што знаходзіцца ў сферы ўяўленняў і пажаданняў. Чаго прагне Багдановіч у гэтым вершы? Праяўляецца ў ім найбольш чалавечая, найбольш эмацыянальная прага мець уласнае дзіця. Зразумела, што рэалізацыю гэтага імкнення бачыць паэт у сямейнай сувязі з той жанчынай, якую кахае, з Аняй. У гэтым вершы культ дзіцяці злучаецца ў адну цэласць з культам жанчыны. Дзіця, у разуменні паэта, павінна быць фізічным і духоўным прадаўжэннем маці. Нават імя маці павінна перайсці да дзіцяці.

Больш за ўсё на свеце жадаю я,
Каб у мяне быў свой дзіцёнак —
Маленькая дачушка-немаўляшка,
Аня Максімаўна,
Такая прыгожанькая,
Цёпленькая, мокранькая,
З чорнымі валосікамі і броўкамі,
З цёмнакарымі вочкамі,
А ручкі, як перацягнуты ніткамі.
Зусім такая, як Вы,
Калі вы былі маленькай дзяўчынкай".

У гэтым, здавалася б, празаічным вершы як жа многа ўнутранай паэзіі, глыбокага лірызму, цёплага, чалавечага пачуцця. Так, гэты твор напісаны не рукой, а сэрцам.

Арыгінальны па сваёй задуме верш „Вы так часта пазіралі ў люстру". У творы паэт выкарыстоўвае даволі тыповую для дзяўчат схільнасць заглядвацца ў люстэрка. Твор канчаецца рэфлексіяй-дэкларацыяй, у якой паэт сцвярджае, што з люстра вобраз дзяўчыны згіне, але ў яго сэрцы будзе жыць вечна.

Тры апошнія вершы цыкла „Муар двума колерамі", „Ці ведаеце Вы, цёмнавокая пані" і „Цёмнавокая пані, канец!" былі напісаны, праўдападобна, у перыяд крызіснага стану кахання Багдановіча. Як вядома, пачуццё да прыгожай Анны Кукуевай не прывяло да станоўчага выніку. Дзяўчына мела многіх паклоннікаў, Багдановіч быў для яе толькі адным сярод іншых. Не, не зразумела і не ацаніла глыбіні і прыгажосці парыву паэта Багдановіча. А ён не мог, аднак, адразу заглушыць акорд найпрыгажэйшай струны свайго сэрца. Напісаў яшчэ тры вышэй названыя вершы, якія былі формай развітання з капрызнай дзяўчынай і формай развітання з сваёй прыгожай, наіўнай ілюзіяй аб шчасці, аб сужонстве, аб сям'і, аб дзецях.

Першы з гэтых трох вершаў „Муар двума колерамі" канчаецца як жа вымоўнымі словамі:

„У сэрцы — боль:
Ніколі
З душою Вашай так не сальецца
Мая душа.
Канец".

Не менш адназначныя два астатнія вершы „Ці ведаеце Вы, цёмнавокая пані" і „Цёмнавокая пані, канец!". Калі ў папярэдніх вершах была выразная паэтызацыя кахання да Ані, ідэалізацыя, а нават фетышызацыя яго, калі Аню прадстаўляў паэт, як нешта адзінае, непаўторнае, вечнае, як нешта, што будзе заўсёды і не праміне ніколі, дык у гэтых вершах аўтар сцвярджае, што „ніколі" і „заўсёды" — гэта быць можа найбольш недарэчныя словы ў чалавечай мове. У першым з іх гаворыць, што існуюць на свеце розныя прыгажосці і кожнай з іх можа захапіцца чалавечае сэрца. Ёсць многа „агнёў і кожным з іх заваражаны" — пясняр. Яшчэ мацней гэтая ідэя падкрэслена ў апошнім вершы цыкла.

„Цёмнавокая пані, канец!
Ёсць, накшталт Вашых цёмных вачэй,
Зоры цёмныя, што неўнарок
Загараюцца ў змроку начэй.
. . . . . . . . . . .
Цёмнавокая пані, сябе
Я на гэтым агні не спалю:
Шмат на свеце ёсць розных агнёў,
Усе яны вабяць душу маю."

Так ці інакш, вершы Багдановіча аб каханні — гэта не толькі адно з найпрыгажэйшых дасягненняў у лірыцы паэта, але і адна з найлепшых старонак у беларускай паэзіі наогул.

„Ніва" № 48 (979) 1 снежня 1974 г. 4 стар.

Пачатак на стар. 1

## СЯБАР ДЗЯЦЕЙ

Дзеці, хоць пераважна не гавораць аб гэтым, вельмі ўдзячны сваім сябрам-шафёрам за добрае сэрца. Аб „сваім шафёру" дзядзьку Сяргею часта расказваюць і бацькам, і сябрам па класе, і настаўнікам. І ўсе яго добра ведаюць, і ўсе ўдзячны за малышоў. Здарылася нават раз Грыгаруку, што неяк пад свята маці аднаго хлопца выйшла на дарогу разам з сынам, а калі Сяргей затрымаў машыну, падала яму кошык румяных яблыкаў са словамі:

— Сардэчнае дзякуй вам ад мяне і ад сына.

Прыемна было Грыгаруку пачуць гэтыя словы. Прыемна гэта чуць і нам, і арганізатарам акцыі — Таварыству сяброў дзяцей. Сяргей Грыгарук здабыў у Белавежы новых сяброў, добрых знаёмых, а ў акцыі „Шафёр, памажы дзіцяці" заняў трэцяе месца і атрымаў ганаровае званне „Сябар дзяцей!"

Прыйшла чарговая сумная восень з мокрай непагаддзю. Нямала яшчэ дзяцей адмервае ў дождж і ў снег, у вецер і ў мароз кожную раніцу свае тры-чатыры кіламетры да школы. Можа, і вам давядзецца сустрэць іх на дарозе. Затрымайцеся, запрасіце пагрэцца ў машыне і давязіце на месца. А калі ўручаць вам купонікі са словамі „Дзякую Табе, шафёр", захавайце іх. У гэтым годзе таксама будзе аб'яўлена такая ж акцыя. Пройдзе навучальны год, зноў будуць узнагароды, падзякі. Але самай высокай узнагародай для ўсіх нас будуць, напэўна, удзячныя ўсмешкі на здаровых дзіцячых тварыках.

**Яніна Чэрнякевіч**
Фота аўтара

## СЫМОН МАНДРЫЦКІ



Некаторыя сяляне, апрача таго, што працуюць на гаспадарцы, навучыліся нейкаму рамяству і адначасова выконваюць дзве прафесіі. Сымон Мандрыцкі з Каянкі, што ў Сямяціцкім павеце, апрача апрацоўкі зямлі, займаецца вырабам сталяркі. Мае ён свой багаты варштат і робіць у ім вокны, дзверы і г.д. Запатрабаванне на столяраў велізарнае, але неяк маладыя людзі не вучацца гэтаму рамяству. А яно ж заўсёды высока цанілася. Цяпер столяр на вёсцы, як кажуць, на вагу золата, бо надта многа гаспадароў будуецца і многа яшчэ будзе будавацца.

Сымон Мандрыцкі таксама любіць паляванне. І магчыма таму ён наняўся ў стражнікі Варшаўскага паляўнічага гуртка „Бэкас", для якога тут якраз прыдзелена паляўнічая тэрыторыя.

**М. Хмялеўскі**
Фота **В. Рудчыка**

### Ці ведаеце што...

...найбольш ашчаднымі з'яўляюцца жыхары Беластоцкага павету — сабралі яны на кніжкі СОП 239 мільёнаў злотых, затым жыхары Сямяціцкага павету — 191 млн злотых, Бельскага павету — 144 млн злотых і Гайнаўскага павету — 141 млн злотых. (ця)

 

## АНТОСЕВА МОВА

— Не, калегі,
так не пойдзе! —

Распякаў Антось на сходзе
Падначаленых сваіх.
— Трэба думаць за дваіх.
Ну, чаму у калектыве
Знікла ініцыятыва?
Я не чую прапаноў.
Паўтараю зноў і зноў...
„Гэта так, —
падумаў кожны. —
Кажа праўду.
Як жа можна?
Без яе і сапраўды
Ні туды і ні сюды“.
Пасля сходу,
як звычайна,
Працавалі людзі дбайна,
А праз тыдні два Хвядос
Прапанову сваю ўнёс:
— Зараз нормы ў нас —
гадзіны.
Каэфіцыент адзіны
Прапаную.
Вывеў сам.
Будзе ён дарэчы нам.
— Малайчына, — шэф наш кажа. —
Аддзел працы абавяжам.
Хай падлічыць, як і што.
Ўкаранім,
калі нішто.
Прапанову ўнесла Бэла
З гаспадарчага аддзела.
Тое-сёе даў Кузьма
І Мікіта і Фама.
Ўсе чакалі зацвярджэння.
Не было толькі рашэння:
Звычку меў такую шэф —
Прапанову класці ў сейф.
Зноў па ініцыятыве
Сумнавата ў калектыве.

Што ж Антось?
Узяў ён моду
Рыхтавацца зноў да сходу.

Язэп Мятла



*Чаго ў спорце не бывае!*




### ДАПАМОГ

Стары бацька просіць сына:
— Падай вады напіцца
— Вы паглядзіце спярша, тату, ці яна ў вядры ёсць, — адказаў той.

## НІЎКА




*— Ты думаеш, я паеду, калі праз тры старонкі зловяць забойцу?!*

### ЗАПЯРЭЧЫЎ

— Гэта ты ў школе навучыўся курыць? — пытае бацька ў Вовы.
— Не! — запярэчыў той.
— На школьным двары.

### СПОСАБ

У хаце генеральнае прыбіранне. Усё ўверх дном. Жонка гаворыць мужу:
— Пайдзі на вуліцу і пазвані мне з аўтамата, а то я не магу знайсці наш тэлефон!

### СОРАМ

Маці гаворыць сваёй дачцы:
— Маня, табе павінна быць сорамна. Усе твае сяброўкі ўжо развяліся, а ты яшчэ не выйшла замуж!

### ЗРАЗУМЕЎ

Неяк жонка сабралася паехаць у госці. Прачнуўся я, а яна ўжо з чамаданамі ля дзвярэй стаіць.
— Ты ж, Вася, — кажа, — галодны не сядзі. Там, на другой паліцы, зверху, у трэцім слоіку злева, вермішэль стаіць. У халадзільніку ў самым нізе масла вазьмі, у шуфлядцы пад пакетам з мукой перац ляжыць, а ў ваннай за скрыначкай з мылам, што пад пральнай машынай, **бульба**. У шафе за аптэчкай тры пакецікі стаць, дык у сярэднім соль будзе, а пад сталом на кухні ў чацвёртым століку злева ў другім радзе ад сцяны гуркі стаяць. Ты ж тут глядзі, галодны не сядзі. Зразумеў?
— Зразумеў, — адказваю.
— Шчасліва даехаць!

### МІНІВЕРШЫ

#### ЗВЫЧКА ХАБАРНІКА

Ён з гэтай самае пароды,
Што бачыць ва ўсім
выгоду.
І за нязначную паслугу
Бярэ з усіх і нават з друга.

Ул. Правасуд



*З жыцця мастакоў.*

### СУЦЕШЫЎ

— Не шанцуе мне: усяго на адну лічбу не сышоўся нумар латарэйнага білета!
— Знайшоў чаго хвалявацца! У мяне на сорак не сышоўся — і то не бядую.

### НЕНАРМАЛЬНЫ

Пацыент просіць псіхіятра:
— Праверце, калі ласка, маё здароўе, а то кажуць, што я ненармальны.
— Якія падставы так сцвярджаць?
— Не п'ю гарэлкі і не куру.

### ШТО ТРЭБА?

— У цябе цудоўная дача! А якая машына! Цяпер табе, напэўна, нічога не трэба!
— Трэба...
— Што?
— Алібі...



**...Апошні тост быў за тое, каб не быць п'янымі.**

**...Ён казаў: праца ўпрыгожвае чалавека, асабліва ў цырульні.**

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Галіны Панятоўскай і Крыстыны Вішанка з Бельска змяшчаем песню з рэпертуару калектыва „2+1“.*

## NA LUZIE

**słowa: Wojciech Młynarski**
**muzyka: Janusz Kruk**

To, co się da
podziel na dwa
bez namysłu dziel
uciechy dnia
do pieca drwa
życia czerń i biel
jeśli ci los
nabije trzos
nie chowaj go w sienniku
tylko
podziel — podziel
podziel — podziel
go na dwa
bis
To co się śni
pomnóż przez trzy
bez namysłu mnóż
a gdy kto chce
powstrzymać cię
ramionami wzrusz
na chmurę ruń
pod niebo fruń
nie śmiej się ze swych marzeń
tylko
pomnóż — pomnóż
pomnóż — pomnóż
je przez trzy
bis
A gdy zbrzydnie ci szalenie
to dzielenie i mnożenie
bo i tak może być
idź bez butów do opery
albo walca suń na cztery,
wyduś sok z fortuny-sknery
zacznij na luzie żyć
po czym znów
To co się da
podziel na dwa... etc.



*Строгі рэжым.*

### КАЛІ Б Я БЫЎ СУМЛЕННЫМ...

Калі б я быў сумленным чалавекам, я б сказаў дзяўчыне, якая стаяла перада мной, сціпла апусціўшы вочы:
— Дарэмна вы пагаджаецеся... Нягледзячы на тое, што за апошні час бытавая тэхніка зрабіла гіганцкія крокі, нягледзячы на ўсялякія пыласосы і палацёры, міксеры, пральныя машыны, газавыя пліты і іншыя прыстасаванні, хатняй працы па-ранейшаму нямала застаецца для гаспадыні.
І на ганаровыя граматы тут разлічваць не прыходзіцца.
Вам прыйдзецца цыраваць шкарпэткі, мыць і праваць бялізну, варыць і смажыць, трэсці і месці, шараваць, скрэбсці і паліраваць.
А калі збяруцца ды пабудуць госці, вам трэба будзе гатаваць і падаваць процьму ежы, а потым выкалупваць акуркі са шчылін і мыць гару пасуды.
Купляць прадукты і здаваць пустыя бутэлькі давядзецца таксама вам.
На чыю-небудзь дапамогу не разлічвайце, бо мая маці вельмі хворы і стары чалавек, а я сам па горла заняты сваёй працай, у мяне на руках дысертацыя, я грамадскі аўтаінспектар і, апрача таго, рыбак... Да таго ж я не збіраюся дапамагаць вам, нават калі будзе ў мяне час, бо не люблю жаночую работу, лічу яе ганебнай.
Усё гэта я сказаў бы, калі б быў сумленным чалавекам...
Замест гэтага я сказаў маладой і прыгожай дзяўчыне, якая ўсё стаяла перада мной, сціпла спусціўшы вочы:
— Любая, я кахаю вас... Будзьце маёй жонкай!

М. Ракаў

*З савецкага гумару*



*— Бабы самі прыдумалі, каб спіну не гнуць.*




### ПАСПРАБУЙЦЕ ПРЫПАРКАВАЦЦА...

Што або хто больш за ўсё выводзіць з раўнавагі англійскага шафёра? Бескла-потныя пешаходы, якія флегматычна перасякаюць, дзе давядзецца, скорасны аўтабан?.. Свой брат, шафёр, які кіруе машынай наперакор усім правілам дарожнага руху? Педант-рэгуліроўшчык? Ні тое, ні другое і ні трэцяе. У Англіі было праведзена спецыяльнае даследаванне для высвятлення ступені нервовага ўзбуджэння вадзіцеляў у залежнасці ад розных умоў язды. Спецыяльныя прыборы дакладна засведчылі: нішто так не „прыводзіць у шаленства“ англійскіх аўтамабілістаў, як... пошукі свабоднага месца для прыпаркоўкі.

### КЛУБ ЗАБЫЎЛІВЫХ МУЖЧЫН

Ён аблягчае жыццё тым багатым, але, на жаль, рассеяным парыжанам, якія вечна блытаюць дзень нараджэння сваёй жонкі, гадавіну вяселля і іншыя ўрачыстыя для сям'і даты. Клуб мае вялікае дасье, дзе ёсць усе неабходныя даныя наконт гэтага. Разам з напамінкам жадаючыя могуць атрымаць параду, які падарунак выбраць, паколькі ўсе папярэдныя падарункі таксама ўлічаны ў дасье.

### „ЗАКАВАЛІ“ Ў РУКАВІЦЫ

Амаль дваццаць гадоў знаходжання за кратамі не змянілі прывычак амерыканца Дж. Уэла. Кожны раз, выходзячы на свабоду, гэты кішэнны злодзей, які лічыцца ў сваіх колах віртуозам, браўся за старое. І ўсё ж знайшоўся суд, які падабраў процідзеянне: ён вынес спецыяльнае рашэнне, згодна з якім Уэл мае права з'яўляцца ў грамадскіх месцах толькі... ў тоўстых рукавіцах.




**...Іншаму госцю каб дагадзіць, і селядзец змазваюць мёдам.**